# наша свабода

№123(210) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

14 ЛІСТАПАДА 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


**ПАДПІСКА НА НАШУ СВАБОДУ!**

Каб не шукаць кожную раніцу нашу газету ў шапіках, падпішыся на яе цяпер! Падпіска на НАШУ СВАБОДУ магчымая праз пошту! У любым аддзяленні сувязі патрабуйце падпісны каталог з індэксам НАШАЙ СВАБОДЫ.

Наш падпісны індэкс – **63478**

## Сіўчык абвінавачвае судовую сістэму

Па справе намесьніка старшыні БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ Вячаслава Сіўчыка, якому інкрымінуюцца арт. 166, 167 (удзел у несанкцыянаваным пікеце і супраціў міліцыі) у панядзелак допытвалі сьведкаў. Імі былі трое міліцыянтаў (дарэчы, тыя самыя, што і ў Паўла Севярынца, лідэра Маладога Фронту й намесьніка старшыні БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ, які атрымаў 10 сутак). Аказалася, што ў пратаколе ёсьць часавыя супярэчнасьці. Напрыклад, было запісана, што сп. Сіўчык перакрываў рух на кальцавой дарозе і быў забраны амапаўцамі ў 10.20, у той час як насамрэч гэта было ў 11.43. Да таго ж сп. Сіўчык а 10-й гадзіне выходзіў у жывы эфір НТВ.

Паводле Вячаслава Сіўчыка, «у нашай краіне, на жаль, цалкам адсутнічае судовая сыстэма. На ўсіх удзельнікаў абароны Курапатаў былі напісаныя пад капірку пратаколы. Былі прыцягнутыя з боку міліцыі адны й тыя самыя людзі, якія сьведчылі або ня сьведчылі, што асобы, якія абараняюць Курапаты, арганізавалі несанкцыянаваны пікет. Што, натуральна, не адпавядае рэчаіснасьці. Але ня ўсе супрацоўнікі міліцыі ўдзельнічаюць у гэтай ганебнай зьяве. Напрыклад, Павал Севярынец і сябар Маладога Фронту Хведар Жывалеўскі (атрымаў 7 сутак арышту) асуджаныя дзякуючы паказаньням толькі аднаго міліцыянта — маёра Васілеўскага з Бараўлянаў. Спадар Васілеўскі бачыў усё, нават тое, чаго не было. Севярынец сядзіць таму, што Васілеўскі ўзьвёў на яго паклёп. Ён схлусіў, сказаўшы, што Павал ляжаў пад самазвалам. Тое, што адбываецца ў судзе, паказвае, што судзьдзі нават ня надта спрабуюць зьвярнуць увагу на тое, як яны выконваюць свае абавязкі. Яны спакойна адмерваюць столькі сутак, колькі ім загадана».

**Прэс-служба БНФ «Адраджэньне»**

## Раскрываюцца таямніцы падлогаў

Як паведаміў Беларускі Хельсінкскі Камітэт, 13 лістапада на гарадскіх могілках у Бярэзіне знойдзена вялікая колькасць запоўненых і завераных подпісамі бюлетэняў па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў па мясцовай выбарчай акрузе №76. Большая частка бюлетэняў ляжала ў сметнікавай яме, загорнутая ў паперу з лагатыпам Рэчыцкага вытворчага ткацкага аб'яднання «Чырвоны кастрычнік».

Дэпутатам Палаты прадстаўнікоў па гэтай акрузе на выбарах 15 кастрычніка 2000 года стаў Пётр Іваненка, намеснік Генеральнага пракурора Беларусі. БХК мяркуе, што знойдзеныя бюлетэні сапраўдныя. Яны, магчыма, былі падмененыя падчас парламенцкіх выбараў, а такія дзеянні ёсць крымінальным злачынствам.

# Паўночны альянс перамагае



За ўчарашні дзень антыталібская кааліцыя захапіла асноўныя гарады Афганістана – Кабул, Кандагар і Джэлалабад

# «Пагоня» спынена?

*Незалежная газета «Пагоня», што выдавалася ў Гародні, аказалася пад забаронай. 12 лістапада Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі пад кіраўніцтвам суддзі Валерыя Жандарава вырашыў спыніць дзейнасць «Пагоні» і ліквідаваць яе рэдакцыю. Пасля скандальнага закрыцця газеты «СВАБОДА» ў лістападзе 1997 года гэта першы выпадак, калі дзейнасць незалежнай газеты спыняецца ўладамі праз Вышэйшы гаспадарчы суд.*

Хадайнічала аб закрыцці «Пагоні» перад ВГС пракуратура Гродзенскай вобласці. Пракуратура ў сваім зыску сцвярджала, што падставай для закрыцця газеты і ліквідацыі рэдакцыі сталі неадназаразовыя парушэнні газетай заканадаўства аб друку. Абласная пракуратура таксама распачала крымінальную справу паводле факта апублікавання напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў матэрыялаў, якія нібыта зняважаюць паклёп на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Паводле Закона аб друку, газеце дастаткова мець два папярэджанні аб парушэнні арт. 5 Закона на працягу года, каб з'явілася фармальная нагода для яе закрыцця. Але на момант звароту пракуратуры ў суд рэдакцыі было вынесенае толькі адно афіцыйнае папярэджанне — за публікацыю зварота незарэгістраванай арганізацыі «Гродзенская ініцыятыва» (кіраўнік – Сямён Домаш).

Калі падчас працэсу высветлілася, што гэтага недастаткова для закрыцця газеты, 21 верасня пракуратура Гродзенскай вобласці вынесла газеце другое папярэджанне — за публікацыю тых жа матэрыялаў, што сталі падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы. Расследаванне яе дагэтуль не скончанае – суд дагэтуль не пацвердзіў, што паклёп на А.Лукашэнку меў месца.

Рэдакцыя газеты «Пагоня» абскардзіла папярэджанне пракуратуры ў гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці.

*Заканчэнне на стар.3*

# Апошні бастыён інтэграцыі

Дэпутаты беларускай Палаты прадстаўнікоў вельмі ўсклапаціліся магчымым продажам Расіяй часткі акцыяў расійска-беларускай кампаніі «Слаўнафта». Усклапаціліся настолькі, што пачалі прасіць сваіх расійскіх калегаў-думцаў адмовіцца ад «небяспечнай» ідэі. Тыя, у сваю чаргу, звярнуліся да прэм'ер-міністра Міхаіла Касьянава.

Адкрытае акцыянернае таварыства «Нафтагазавая кампанія «Слаўнафта» было заснаванае 26 жніўня 1994 года. На сённяшні дзень больш за 85% акцыяў «Слаўнафты» належыць дзвюм дзяржавам, Расіі і Беларусі. Пры гэтым, Беларусь мае пакет у 10,8%. Расія ж валодае двума пакетамі, адзін – у 55,27%, а другі – у 19,68%. Кіруе «Слаўнафтай» Міхаіл Гуцэрыеў (блізкі да расійскага алігарха і губернатара Чукоткі Рамана Абрамовіча).

У 2002 годзе Расія збіраецца выставіць на продаж другі пакет акцыяў – 19,68%.

*Заканчэнне на стар.3*

## Гарняцкі пікет

Незалежны прафсаюз гарнякоў прадпрыемства «Беларуськалій» 16 лістапада ад 10-ай да 13-ай гадзіны праводзіць пікет у парку Дружбы народаў. Пікетчыкі будуць патрабаваць адмены падаткаабкладання сумаў, што выплачваюцца работнікам пры звальненні з прадпрыемства. Другая вымога пікетчыкаў – зніжэнне стаўкі падаходнага падатку да 13%.

## Дарагая дарога на працу

Мінгарвыканкам падняў кошты на гарадскія пасажырскія перавозкі. Цяпер адна паездка ў грамадскім транспарце каштуе 80 рублёў (дагэтуль было 60). Льготны квіток – 40 рублёў. Праязны білет на месяц на адзін від транспарту будзе каштаваць 3.600 рублёў. На чатыры – 6.400 рублёў.

## 100 долараў праз год

Паводле словаў міністра фінансаў Мікалая Корбута, рэальная заработная плата напрыканцы гэтага года ў бюджэтнай сферы складзе каля 78 долараў. А ў канцы наступнага года – 110 долараў.

## П'янець усё цяжэй

На 3% узраслі кошты на гарэлку. Цяпер пляшка гэтага моцнага напою «Крышталь-100» стала каштаваць 1.995 рублёў, «Белая Русь» і «Крышталь-люкс» – па 2.059 рублёў, «Белая Русь-люкс» і «Крышталь-люкс новы» – па 2.134 рублі. Сёлета гэта ўжо восьмае падаражанне гарэлкі, а ўсяго ў 2001 годзе кошты на яе павялічыліся на 34,9%.

## Не хачу вучыцца, а хачу напіцца

Калі ў 1994 годзе было затрымана 18 тысяч падлеткаў у нецвярозым стане, у мінулым годзе – 29 тысяч, а толькі за дзесяць месяцаў сёлета – ужо 30 тысяч. Цяпер на ўліку наркалагічнай службы знаходзіцца блізу 8 тысяч маладых людзей.

## У памяць святога Ясафата

12 лістапада ў Віцебску адбылося ўшанаванне памяці галоўнага святога беларускай грэка-каталіцкай царквы арцыбіскупа Полацкага Ясафата Кунцэвіча. Як падае Радыё «Рацыя», ушанаванне адбылося на Успенскай горцы, дзе 378 гадоў таму святы Ясафат прыняў пакутніцкую смерць.

## Беларуская «Шкода»

Аўтамабіль «Шкода» беларускай вытворчасці можа з'явіцца ўжо сёлета. Зборка аўтамабіляў «Шкода Фабія» і «Шкода Актавія» будзе ажыццяўляцца на базе завода ў пасёлку Абчак, што пад Мінскам. Кошт беларускай «Шкоды» складзе каля 6-7 тысяч долараў.

# «Курапаты – мера духоўнай сілы народа»

## *Інтэрв'ю Зянона Пазьняка рэдакцыі НАШАЙ СВАБОДЫ:*

***— Спадар Зянон, Вы зараз у ЗША праводзіце шэраг сустрэчаў, у тым ліку ў Дзяржпэпартаменце. Вядома, што там змянілася кіраўніцтва Беларускага аддзела. Ці можаце распавесці, хто зараз займаецца рэалізацыяй палітыкі ўрада ЗША ў дачыненні да Беларусі? Што, на Вашу думку, змянілася з прыходам новай адміністрацыі, як яна ацэньвае нашыя рэаліі і перспектывы?***

— Рэспубліканцы ў Амерыцы ўвогуле вызначаюцца большай рашучасцю і канкрэтным падыходам. Акрамя таго, лепш арыентуюцца ў міжнародных і нацыянальных справах. Мне здавалася, што могуць скласціся лепшыя ўмовы для разумення сітуацыі ў Беларусі. І яно да гэтага рухалася. Амерыканская пазіцыя і ацэнка фальшывых выбараў у Беларусі найбольш рэалістычная дзеля нашых нацыянальных інтарэсаў.

Але пасля 11 верасня шмат перамянілася і ўскладніла вайна Амерыкі з бін Ладэнам. Увесь свет і ЗША занятыя найперш вайной.

*Заканчэнне на стар.3*

# Работа над ошибками

Сейчас, по прошествии немалого времени после окончания избирательной кампании, многие ее просчеты и ошибки видятся более отчетливо. Кто хоть немного интересуется избирательными технологиями, согласится, что принципиально стратегия кампании была выстроена верно и логично. Ее главными элементами стал комплекс мероприятий по определению единого кандидата от широкой гражданской коалиции, массированный вброс информации о кандидате, мобилизация на участие в выборах потенциальных сторонников перемен, разъяснительная работа с представителями вертикали, непосредственно организующими выборы, и эффективное наблюдение как превентивная мера против подтасовок результатов. Как говорится, все как у людей, все по науке, и успешная реализация этих технологических блоков наверняка привела к триумфу не одну политическую силу. Но в современной Беларуси логике поддается далеко не все.

Ведь было же известно, что режим Лукашенко изначально запрограммирован на фальсификацию итогов голосования. Это подтверждало множество фактов. Например, нежелание властей даже незначительно либерализовать избирательное законодательство, а также категорический отказ включить в состав комиссий представителей оппозиционных партий и общественных объединений. Значит, мы были обязаны этому противопоставить нечто очень серьезное.

Разве у кого-то были сомнения, что для достижения эффекта простых обращений к «вертикали» через СМИ и индивидуальных бесед с отдельными ее представителями недостаточно?

Мне представляется, что «убедить» госчиновников не преступать закон можно было, только продемонстрировав силу оппозиции.

*Окончание на стр.5*

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1530**




ІНІЦЫЯТЫВА

## Дабрачынная мастацкая акцыя

БНФ «Адраджэньне», Таварыства беларускай мовы і мастацкая суполка «Пагоня» ладзяць дабрачынную выставу-продаж пад назвай «Усё часовае, мастацтва вечнае», якая адкрываецца 15 лістапада а 17 гадзіне ў Мінску па вуліцы Сурганава, 16 (галерэя «Золата»). Працягнецца выстава да 22 лістапада.

На ёй наведвальнікі будуць мець магчымасць набыць творы розных жанраў вядомых беларускіх мастакоў: Г.Драздова, С.Цімохава, А.Пушкіна, А.Марачкіна, С.Касцючэнкі, Ю.Хілько, П.Русака і іншых.

Сродкі ад продажу іхніх твораў пойдуць на пабудову нацыянальнага мемарыяла ў Курапатах.

**Філон РЫМША**

## «Вертыкальшчык» здаўся

Былы старшыня Веткаўскага райвыканкама Васіль Воінаў, які знаходзіцца ў міждзяржаўным вышуку са студзеня 2000 года, 12 лістапада сам здаўся беларускай міліцыі.

Крымінальная справа ў дачыненні да Васіля Воінава была ўзбуджана ў студзені 1999 года Гомельскім упраўленнем Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры МУС Беларусі. У яго доме былі знойдзены сем стрэльбаў наразных і гладкаствольных, у тым ліку і імпартнай вытворчасці, дзве вінтоўкі, адна з якіх самаробная, пісталеты «ТТ» і «Макарава», а таксама звыш за 4 тысячы патронаў. Частка зброі не была зарэгістравана, што дало падставу ўзбудзіць супраць старшыні райвыканкама крымінальную справу за незаконнае захоўванне зброі, яе крадзеж, а таксама службовы падлог. Ад займай пасады Васіля Воінава вызваліў асабіста кіраўнік дзяржавы.

Гомельскі абласны суд прызнаў Воінава вінаватым, асудзіўшы да 4 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму, з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць адказныя кіруючыя пасады тэрмінам на 4 гады. Аднак да ўступлення прысуду ў законную сілу меру стрымання Воінаву – падпіску аб нявыездзе – адмяняць не сталі. 21 студзеня 2000 год Васіль Воінаў накіраваўся ў Гомель для сустрэчы з суддзёй, якая рыхтавала матэрыялы справы для перадачы іх у Вярхоўны суд на касацыйны разгляд. Але ў Гомелі экс-кіраўнік раёна так і не з'явіўся. Паводле інфармацыі, якую прадаставіла БелаПАН крыніца з кампетэнтных органаў, увесь гэты час Васіль Воінаў знаходзіўся ў Казахстане ў знаёмых.

**Ірына ШАНЦАВА**

## Новікава ў суд даставіць міліцыя

Вядучы Беларускага тэлебачання Яўген Новікаў, аўтар праграмы «Права человека: взгляд в мир» будзе прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці з-за праявы непавагі да суда. Як паведаміў БелаПАН кіраўнік прэс-службы Саюза хрысціян веры евангельскай (Саюз ХВЕ) Аляксандр Вялічка, такую пастанову 8 лістапада вынес суд Першамайскага раёна горада Мінска.

У гэты дзень на судовым паседжанні разглядалася справа аб абароне гонару і дзелавой рэпутацыі. Істцамі па справе выступілі Саюз ХВЕ і царква ХВЕ горада Старыя Дарогі (Мінская вобласць). Яны падалі ў суд на Нацыянальную дзяржаўную тэлерадыёкампанію Беларусі, Яўгена Новікава і рэдакцыю газеты «Навіны Старадарожчыны», якія абвінавацілі пратэстанцкую абшчыну Старых Дарог ва ўчыненні цяжкага злачынства.

Паводле словаў Вялічкі, 9 і 16 красавіка 2001 года ў праграме Яўгена Новікава прагучала інфармацыя аб прынашэнні чалавечых ахвяраў, што нібыта мелі месца ў царкве ХВЕ Старых Дарог.

Прыняцце жорсткіх мер у дачыненні да Новікава было выклікана неаднаразовай няяўкай адказчыка на судовыя паседжанні. Акрамя таго, у тэлефоннай размове з суддзёй Вікторыяй Зайцавай, якая разглядае справу, Новікаў заявіў, што «не мае намеру з'яўляцца на гэтае судовае паседжанне». Як адзначыў Аляксандр Вялічка, наступнае судовае пасяджэнне адбудзецца 20 снежня, на якое міліцыя павінна будзе даставіць вядучага БТ.

**Марат ГАРАВЫ**

АДУКАЦЫЯ

## Кветкі настаўніку – хабар

Канстытуцыйны суд прызнаў выкладчыкаў за службовых асобаў, а гэта значыць, што яны трапляюць пад прыцягненне да крымінальнай адказнасці, калі прымуць ад школьнага ці студэнта якую-небудзь матэрыяльную ўзнагароду. А гэта можа быць нават звычайны букет кветак.

Канстытуцыйны суд разглядаў гэтае пытанне з ініцыятывы Савета міністраў і на падставе просьбаў міністэрства ўнутраных справаў. Органы паскардзіліся, што ў дачыненні да разгляду справаў злоўленых на хабарніцтве настаўнікаў не было адзінага падыходу і трактовак ступені іхняй віны: некаторых судзілі, іншых – адпускалі.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Ордэн і паёк

Жыхар вёскі Машанакі Магілёўскага раёна Ілля Узянкоў атрымаў ордэн, якім ён быў узнагароджаны 54 гады таму. Указ аб узнагароджанні ордэнам яму быў падпісаны 6 лістапада 1947 года. Аднак атрымаць узнагароду ветэран вайны змог толькі цяпер. З гэтай нагоды мясцовыя ўлады выдзелілі ардэнаносцу матэрыяльную дапамогу і прадуктовы пакет.

**Канстанцін УВАРАЎ**

## Конкурс на праект курапацкага мемарыяла

13 лістапада грамадская ініцыятыва «Моладзь у абарону Курапатаў» абвясціла конкурс на лепшы праект мемарыяла ў Курапатах.

У інтэрв'ю БелаПАН прадстаўнік кіраўніцтва Беларускай партыі свабоды Алесь Гетман паведаміў, што конкурс на лепшы праект мемарыяла працягнецца да пачатку 2002 года. На працягу лістапада ўдзельнікам конкурсу прапаноўваецца накіроўваць эскізы праекта ў лагер валанцёраў. «У снежні мы чакаем макеты і тэхнічнае абгрунтаванне праектаў», – зазначыў Гетман. Паводле яго словаў, усе аўтарскія прапановы павінны грунтавацца на хрысціянскай канцэпцыі і ўлічваць тую акалічнасць, што на тэрыторыі мемарыяла ўжо ўстаноўлена каля 300 крыжоў у памяць ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. «Неабходна таксама ўлічыць беларускія нацыянальныя традыцыі захавання памяці аб бязвінна забітых і вопыт Расіі ва ўвекавечанні памяці ахвяраў камуністычнага генацыду», – заўважыў Алесь Гетман.

**Марат ГАРАВЫ**

ЛЮСТРАФАКТ




Фота IREX/ProMedia

Пры кульгавай эканоміцы добра стаіць толькі більярд

ДАПАМОГА

## Свята марпехаў ЗША

Раскватараванае ў Мінску падраздзяленне корпуса марской пяхоты Злучаных Штатаў Амерыкі адсвяткавала 226-ю гадавіну з дня ўтварэння корпуса ў памяшканні пасольства Літоўскай Рэспублікі ў Мінску.

Адкрыты год таму новы будынак пасольства Літвы ў Беларусі – адзін з нешматлікіх у Мінску, які адпавядае патрабаванням бяспекі пры арганізацыі амерыканскіх публічных мерапрыемстваў у замежных краінах. Даведаўшыся пра цяжкасці, з якімі сутыкаюцца марскія пехацінцы ЗША, што ахоўваюць будынак амерыканскага пасольства ў Мінску, шукаючы памяшканне для свайго традыцыйнага свята, пасол Літоўскай Рэспублікі Ёнас Паслаўскас прапанаваў правесці гэтае мерапрыемства ў пасольстве Літвы.

Корпус марской пяхоты Злучаных Штатаў Амерыкі быў заснаваны рэзалюцыяй Кангрэса 10 лістапада 1776 года.

**Сяргей ШУПА**

БЮДЖЭТ

## Новыя мінімумы

Пастановай Савета міністраў з лістапада ўстаноўлены новы памер бюджэту пражытачнага мінімуму (БПМ) у сярэднім на душу насельніцтва і па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах.

БПМ у сярэднім на душу насельніцтва складае зараз 52.541 рубель, для працаздольнага насельніцтва – 56.136, для пенсіянераў – 43.631, студэнтаў – 55.006, дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 гадоў – 58.681, дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў – 44.373.

Пастановай міністэрства працы ўстаноўлены новыя памеры мінімальных спажывецкіх бюджэтаў (МСБ) для розных сацыяльна-дэмаграфічных груп насельніцтва.

У прыватнасці, МСБ для сям'і з чатырох чалавек складае зараз 87.674 рублі, мужчыны працаздольнага ўзросту – 104.245, жанчыны працаздольнага ўзросту – 103.885, маладой сям'і з двума дзецьмі – 84.492, маладой сям'і з адным дзіцем – 94.103, сям'і пенсіянераў – 74.762, мужчыны-пенсіянера – 83.692, жанчыны-пенсіянеркі – 82.723, студэнта – 80.628, студэнткі – 80.362, дзяўчыны ва ўзросце ад 14 да 18 гадоў – 100.936, юнака ва ўзросце ад 14 да 18 гадоў – 106.320.

Сярэдняя ўдзельная вага асноўных артыкулаў спажывецкіх расходаў у МСБ: харчаванне – 49,3%, адзенне, бялізна, абутак – 22, прадметы культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння – 8,5, прадметы санітарыі, гігіены, лекі – 2,8, аплата жылля і камунальных паслуг – 7,2, бытавыя паслугі, транспарт – 6.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**



## Беларус – лепшы ў настольным тэнісе

Адзін з лепшых тэнісістаў свету, які доўгі час быў першай ракеткай у настольным тэнісе, беларус Уладзімір Самсонаў выйграў Кубак свету-2001.

Пры гэтым наш суайчыннік не аддаў сапернікам, пачынаючы з чвэрцьфіналу, аніводнай партыі. У фінале Самсонаў лёгка перайграў цяперашнюю першую ракетку кітайца Ван Лічына.

Уладзімір Самсонаў ужо другім разам выйграе Кубак свету. Першы раз ён гэта зрабіў у 1999-ым.

**Алесь КАТОВІЧ**

## Ліцэй зачынілі, заробкі не плацяць

Выкладчыкам творчага аб'яднання Беларускіх гуманітарных ліцэйскіх класаў Светлагорска (Гомельская вобласць) не выплачваецца заработная плата. Пра гэта паведаміў БелаПАН старшыня творчага аб'яднання Тэльман Маслюкоў. Класы былі створаны 1 кастрычніка 2001 года ў сярэдняй школе №1 Светлагорска ў выніку рэарганізацыі філіяла Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. На працягу трох тыдняў выкладчыкі і навучэнцы філіяла адстойвалі права захаваць свой калектыў. Прычым, ліцэісты ў вольны ад заняткаў час неаднаразова праводзілі пікеты перад будынкамі, дзе размяшчаюцца органы мясцовай улады. «І хаця ўвесь верасень заняткі ў філіяле ліцэя праводзіліся без перапынку, аддзел адукацыі Светлагорскага гарвыканкама не выплаціў выкладчыкам заробак за другую палову верасня», – зазначыў Маслюкоў. Паводле яго слоў, такая сітуацыя паўтарылася праз месяц. «8 лістапада, у першы дзень другой чвэрці, выкладчыкі ліцэйскіх класаў атрымалі разліковыя лісткі, у якіх сказана, што заработная плата за кастрычнік ім таксама не налічваецца», – сказаў Маслюкоў.

**Марат ГАРАВЫ**

СТАСУНКІ

## Польскія дні ў Мінску

З 1 па 27 лістапада ў Мінску праводзяцца мерапрыемствы, прысвечаныя Дню незалежнасці Польшчы (11 лістапада). Іх арганізатарамі выступілі пасольства Польшчы ў Беларусі і Польскі інстытут у Мінску.

Як паведамілі БелаПАН у пасольстве Польшчы, з 1 па 26 лістапада ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва экспануецца выстава графікі «Вокны аднаго горада» з удзелам Малгажаты Дзмітрук (Варшава). 7 лістапада ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў прайшоў фінал конкурсу «Кіно маральнага неспакою» з цыкла «Ці ведаеш ты польскае кіно?». 11 лістапада ў сталічным Доме ветэрана прайшла вечарына польскай культуры і фальклору, арганізаваная «Саюзам палякаў на Беларусі». У святочным канцэрце выступілі «Польскі хор» мінскай сярэдняй школы № 1, вакальна-танцавальны ансамбль «Тэнга» з Барысава (Мінская вобласць), ансамбль «Сланечнікі» з Маладзечна (Мінская вобласць) і іншыя фальклорныя калектывы з многіх гарадоў Беларусі.

У праграме мерапрыемстваў – прэзентацыя матэрыялаў канферэнцыі «Традыцыі і навуковыя перспектывы парламентарызму» (15.11, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны), прэм'ера Польскага тэлевізійнага тэатра паводле паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды» (26.11, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў), канцэрт польскага сімфанічнага аркестра «*Jeunesses Musicales*» з Варшавы (27.11, Беларуская дзяржаўная філармонія).

**Марат ГАРАВЫ**

ПРЫРОДА

## Новая няволя мінскіх звяроў

Жывёлам сталічнага заапарка (іх тут больш сотні відаў), што размяшчаецца ў мікрараёне Чыжоўка на беразе Свіслачы, хутка стане крыху цяплей, сытней і вальней. Гэта стане вынікам адразу некалькіх спрыяльных для прыстойнага існавання заапарка падзеяў, якія тутэйшая адміністрацыя чакае ў наступным месяцы.

Са снежня заапарк пераходзіць, чаго вымагалі досыць даўно, у падпарадкаванне «Мінскзялёнбуда». Дырэктар Мінскага заапарка Юрый Рабаў кажа, што ў сувязі з гэтым павінна значна павялічыцца фінансаванне дома для звяроў з боку горада. Шмат грошай патрэбна не толькі для кармлення жывёлаў, каб не даводзілася рабіць адмысловых акцыяў сярод жыхароў горада па зборы ежы, як гэта часта робяць у Гродне, але і для працягу грунтоўнай рэканструкцыі заапарка, распачатай яшчэ ў 1998 годзе.

Дарэчы, да 1 снежня мусіць быць здадзеная першая яе чарга. Непадалёк спрэс састарэлых, малых далей няма куды і непрывабных збудаванняў узведзеныя новыя сучасныя вальеры, ветэрынарны корпус, кармакухня. Нарэшце, для наведвальнікаў заапарка з'явіцца такі немалаважны спаруд, як публічная прыбіральня.

Звяроў перавядуць у новыя вальеры ўвесну. А цеплалюбівых ужо ўзімку забяруць у ветэрынарны корпус. Старыя вальеры, дарэчы, зносіцца не будуць: пазней іх плануецца рэканструяваць.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**



# «Курапаты – мера духоўнай сілы народа»

## Інтэрв'ю Зянона Пазьняка рэдакцыі НАШАЙ СВАБОДЫ:

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Такое становішча стараюцца выкарыстаць розныя дыктатары, каб пад шумок вырашыць свае ўнутраныя «нязручныя» (ці проста злачынныя) праблемы (расправіцца з непрыяцелямі, атрымаць крэдыты, скасаваць даўгі і г.д.). Пуцін, напрыклад, імкнецца расправіцца з чачэнцамі, а Лукашэнка – з Курапатамі і г.д. Маўляў, усе занятыя амерыканскай вайной і нікому няма справы да іншых.

Зрэшты, пра гэта я гаварыў з новым кіраўніцтвам Беларускага аддзела ў Дзяржаўдэпартаменце ЗША. Цяпер ім кіруе спадарыня Чэры Джонсан, якая раней была прадстаўніком ЗША ў Славакіі і Македоніі.



У мяне не склался ўражання, што пра Беларусь у Амерыцы забыліся. Тут ведаюць пра наша імкненне абараніць незалежнасць і разумеюць якія могуць скласціся небяспечныя, некарысныя дачыненні ў гэтай часткы Еўропы.

Я выказаў свае меркаванні на гэты конт, погляды на паслявыбарчую сітуацыю і перспектывы Беларусі і застаўся задаволены разуменнем калегаў з амерыканскага боку. Была размова таксама пра спробы разбурэння Курапатаў і іншыя тэмы.

***— Што Вас найбольш цікавіла падчас рамоваў у Дзяржэпартаменце?***

— Мне не абыякава было зразумець адносіны да Беларусі і да нашых нацыянальных праблемаў з боку новага кіраўніцтва Беларускага аддзела. Бо Аддзел робіць аналіз сітуацыі і падрыхтоўвае матэрыялы для фармавання палітыкі і прыняцця потым пэўных афіцыйных захадаў. Калі казаць пра вынік маёй зацікаўленасці, то ён станоўчы.

***— Якім Вам бачыцца магчымы ўплыў праекта «Акты аб дэмакратыі ў Беларусі», перададзеныя сенатарам Хэлмсам на разгляд Сената 7 лістапада?***

— Спачатку трэба, каб гэты праект быў прыняты Сенатам. Тады будзе рэальны ўплыў.

Тут, у Нью-Ёрку, усе палітычна актыўныя беларусы пра гэты праект гавораць і ацэньваюць яго вельмі станоўча. У суботу (10 лістапада) палажэнні праекта Хэлмса абмяркоўвалі на штомесячнай сустрэчы Нью-Ёрскага аддзела БАЗА (Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне). Наогул павінен сказаць, што пазіцыя сенатара Джэсі Хэлмса вельмі станоўча ўспрымаецца беларусамі ў Амерыцы.

***— Сённяшні канфлікт уладаў і грамадства найбольш яскрава праяўляецца ў стаўленні да Курапатаў. Як Вы ацэньваеце гэтыя падзеі? Што б рабілі Вы, калі б былі тут?***

— Курапаты для Беларусі (і не толькі для Беларусі) – гэта агульнанародны духоўны сімвал вялікага значэння. Гэтакі ж, як бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня». На гэтым сімвале вымяраецца сіла народнага духу і сіла народнай лучнасці. Нішто так не актывізуе калектыўны інстынкт народнага самазахавання і нішто гэтак не лучыць людзей, як памяць пра генацыд, пра забойства радакоў, пра знішчэнне ўсіх.

Нішто так моцна не з'яднала габрэяў, не паспрыяла іхняму духоўнаму і палітычнаму адраджэнню, як памяць пра халакост.

Памяць пра генацыд армянаў у 1915 годзе змяніла дух армянскай нацыі, салідарызавала ўсіх як аднаго чалавека. (Памяць продкаў, дарэчы, першасная ўмова ўзнікнення культуры і гістарычнага развіцця чалавецтва).

Не захоўвае памяці пра вынішчэнне сабе падобных толькі духоўна мёртвы народ і істоты дакультурнага свету (жывая прырода).

За часы камунізму непрыяцелі беларускага народа ўжо пахавалі яго. Але ў 1988 годзе адкрыццё праўды пра Курапаты засведчыла, што беларускі народ – жывы.

Курапаты ўскалыхнулі Беларусь. Курапаты зварухнулі гістарычную памяць народа і сумленне нацыі.

З Курапатаў пачалося новае палітычнае адраджэнне Беларусі.

З Курапатаў узрос і пачаўся Беларускі Народны Фронт.

З Курапатаў пачаўся крах камунізму на Беларусі.

Гэта сапраўды так. Курапаты – найвялікшы сімвал і мера духоўнай сілы беларускага народа.

Гэтак жа, як тэрарысты ў Амерыцы, людзі, якія занялі ў 1994 годзе ўладу ў Беларусі, першым чынам ударылі па галоўных каштоўнасцях і сімвалах нацыі і па беларускай мове, па беларускім сцягу, гербу «Пагоня» і Курапатах. Але толькі ў 2001 годзе (пасля шматлікіх спробаў) яны зразумелі, што сфальсіфікаваць праўду пра Курапаты – немагчыма. І тады яны вырашылі фізічна знішчыць месца генацыду, і пачалі знішчэнне з будаўніцтва аўтастрады праз народны мемарыял.

Ізноў жа, абарона Курапатаў паказвае, што народ наш жывы. Ён жыве ў ты[, хто абараняе Курапаты. Калі б, напрыклад, не было ніводнага абаронцы — тады б іншыя падумалі, што нас няма.

Але мы ёсць. Як у гімне пяецца: не загіне край наш родны, пакуль мы жывем.

Змагацца за Беларусь, за яе справядлівасць і волю трэба ўсюды і заўсёды, не наракаючы на лёс. Гэта я і стараюся рабіць вось ужо пяць гадоў на чужыне і адначасна на Беларусі разам з Народным Фронтам.

# Суды над абаронцамі Курапатаў

12 лістапада ў судзе Мінскага раёна і горада Заслаўя былі разгледжаны адміністрацыйныя справы некалькіх удзельнікаў акцыі па абароне мемарыяльнага комплексу Курапаты. Комплекс, дзе пахаваныя тысячы ахвяраў сталінскіх рэпрэсій, можа значна пацярпець пры рэканструкцыі Мінскай кальцавой аўтадарогі.

У першай палове дня дзесяцісутачнаму адміністрацыйнаму арышту быў падвергнуты лідэр «Маладога фронту» Павел Севярынец. Вечарам адбыўся разгляд справы Фёдра Жывалеўскага - мадагога, але ўжо даволі папулярнага рок-музыканта, чыя група, выступіўшы сёлета на фестывалі «Басовішча» (Польшча), звярнула на сябе ўвагу польскай прэсы і публікі. Жывалеўскі быў затрыманы падчас акцыі ў Курапатах. Ён адмаўляў свой удзел у акцыі, аднак падчас прагляду відэастужкі гэты ўдзел быў пацверджаны. Суддзя Аляксандр Тачкар прызнаў Жывалеўскага вінаватым па ўдзеле ў несанкцыянаваным пікеце (артыкул 167-1, частка 1 Кодекса аб адміністрацыйных правапарушэннях) і непадпарадкаванні законнаму патрабаванню работніка міліцыі (артыкул 166 КоАП). Суд пастанавіў падвергнуць Жывалеўскага адміністрацыйнаму арышту на 7 сутак.

Адвакат Аляксандр Галіеў, які браў удзел у разглядзе справы Фёдара Жывалеўскага, лічыць, што пакаранне яўна несувымернае правапарушэнню. Як зазначыў адвакат, суды над удзельнікамі акцый у абарону Курапатаў праходзяць па аднолькаваму сцэнарыю і са шматлікімі парушэннямі. Па ўсіх без выключэння пастановах, ужо вынесеных удзельнікам акцыі ў Курапатах, неабходна падаць скаргі, лічыць Галіеў.

У гэты ж дзень штрафам у памеры 20 мінімальных зарплат былі падвергнуты ўдзельнікі акцыі па абароне Курапатаў Леанід Садоўскі і Віктар Кавешнікаў. Суды над яшчэ некалькімі грамадзянамі, у тым ліку над намеснікам старшыні Партыі БНФ Вячаславам Сіўчыкам, перанесены на больш позні тэрмін. Гэта звязана з тым, што ў пратаколах аб правапарушэнні, прадстаўленых міліцыяй, выяўлены неадпаведнасці.

**БелаПАН**



# «ПАГОНЯ» спынена?

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Аднак Вышэйшы гаспадарчы суд узяўся сам разглядаць скаргу і аб'ядаў яе з зыскам пракуратуры аб закрыцці газеты. У судовым разглядзе суддзя В.Жандараў прызнаў гэтае папярэджанне законным і абгрунтаваным, нягледзячы на тое, што факт паклёпу на прэзідэнта не быў даказаны ва ўсталяваным парадку.

Міністэрства інфармацыі, у інтарэсах якога быў пададзены зыск аб закрыцці газеты і ліквідацыі рэдакцыі, адмовілася ад зыску яшчэ да суда.

Тым не менш, Вышэйшы гаспадарчы суд не прыняў да ўвагі аргументы прадстаўнікоў рэдакцыі газеты «Пагоня» і міністэрства інфармацыі і адначасова з прызнаннем папярэджання пракуратуры абгрунтаваным вынес рашэнне аб закрыцці газеты «Пагоня» і ліквідацыі рэдакцыі.

Беларуская асацыяцыя журналістаў выступіла з заявай з нагоды закрыцця «Пагоні», у якой звязвае закрыццё газеты і ліцвідацыю яе рэдакцыі з абвінаваннем Аляксандра Лукашэнкі «разабраўшай» з незалежнай прэсай пасля выбараў. «У гэтым жа шэрагу – працяг расследавання крымінальнай справы, распачатай па факце публікацыі перадвыбарчых матэрыялаў у газеце «Рабочы» і адмова Вышэйшага гаспадарчага суда разглядаць зыск газеты «Брестский курьер» да міністэрства адукацыі аб прызнанні несапраўдным папярэджання».



«Такія дзеянні беларускіх уладаў выклікаюць сумненне ў шчырасці дэкларавнага імі імкнення да грамадскага дыялогу і лібералізацыі ўсіх бакоў дзяржаўнага жыцця» – такімі словамі заканчваецца зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў. Галоўны рэдактар «Пагоні» Мікола Маркевіч быў літаральна шакаваны рашэннем суддзі В.Жандарава. Цяпер ён прыкладае намаганні, каб аспрэчыць рашэнне Вышэйшага гаспадарчага суда. Адначасна ён абяцае выдаваць «Пагоню» ў інтэрнэце. Але па стане на ўчарашні вечар на сайце газеты (*http://www.pahonia.promedia.minsk.by*) абнаўленняў не адбылося.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Грамада прарвалася ў Еўропу

18-23 лістапада старшыня БСДП (Народная Грамада) Мікола Статкевіч правядзе ў Германіі, на чарговым з'ездзе Сацыял-дэмакратычнай партыі (СДПГ). У часе форума плануецца сустрэча лідэра Народнай Грамады з канцлерам ФРГ Герхардам Шродэрам, на якой гаворка пойдзе пра «ўзаемаадносіны з Беларуссю пасля прэзідэнцкіх выбараў, а таксама пра супрацоўніцтва пэміж партыямі».

Візіт у Германію станецца другой міжнароднай паездкай Міколы Статкевіча па краінах Еўропы, дзе ва ўладзе першую скрыпку іграюць сацыял-дэмакраты. 2-8 лістапада лідэр Народнай Грамады пабываў ужо на з'ездзе Сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі Швецыі. У Стакгольм М.Статкевіч паехаў дзеля «дзвюх рэчаў: сустрэчы з лідэрам сястрынскай партыі – прэм'ер-міністрам Швецыі Ёранам Персанам ды абмеркаваннем «беларускага пытання».

У часе гутаркі з Ёранам Персанам, якая адбылася падчас семінара па дэмакратызацыі Беларусі, М.Статкевіч выклаў уласнае бачанне стратэгіі ўзаемаадносінаў Еўропы з Беларуссю. На ягоную думку, міжнародная ізаляцыя Беларусі не дасць жаданага выніку; што апазіцыя мусіць імкнуцца весці перамовы з уладай, а міжнародная супольнасць павінна падтрымліваць «чалавечыя кантакты» з рэжымам А.Лукашэнкі.

Сацыял-дэмакратычная рабочая партыя Швецыі відавочна раздзяляе агучаную беларускім палітыкам пазіцыю і фактычна ўжо выступіла пасярэднікам пры наладжванні кантактаў паміж апазіцыяй і беларускім рэжымам. На 9-11 снежня СДРПШ запрасіла ў Стакгольм для наладжвання «першых кантактаў» 5 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і міністра замежных справаў Беларусі Міхаіла Хвастова, якія будуць прадстаўляць рэжым Лукашэнкі, і кіраўнікоў пяці вядучых апазіцыйных партыяў. Мэта гэтага візіту – «абазначыць тэндэнцыі далейшага развіцця Беларусі».

10-15 снежня М.Статкевіч накіруецца ў Польшчу, дзе мае намер сустрэцца з прэм'ерам краіны – старшынём сацыял-дэмакратычнай партыі Лешакам Мілерам. З 4 лютага Мікола Статкевіч накіруецца ў цэлае еўрапейскае турнэ, маршрут якога пралягае праз Брусель, Страсбург, Люксембург...

**Рыгор БУЯН**

# Апошні бастыён інтэграцыі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Плануецца, што гэта прынясе не менш за 250-300 мільёнаў прыбытку расійскаму бюджэту. І гэтыя паступленні ўжо запланаваны ў праекце бюджэту.

Але частковая прыватызацыя чамусьці недаспадобы беларускім «гаспадарам». Паводле сцвярджэнняў беларускіх дэпутатаў, продаж пакета акцыяў «Слаўнафты» перашкодзіць інвестыцыям кампаніі ў Беларусь – маўляў, у выніку сарвуцца мерапрыемствы па рэканструкцыі Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода, а таксама пашырэнне збытавай сеткі. Пры гэтым, «палатачнікі» адзначаюць, што «дзейнасць расійска-беларускай кампаніі «Слаўнафта» з'яўляецца адным з рэальных пазітыўных этапаў у паглыбленні эканамічнай інтэграцыі паміж Расіяй і Беларуссю». Інакш кажучы, надзейным бастыёнам міждзяржаўнай інтэграцыі. Калі ж у інтэграцыйную ідылію ўварвецца прыватнік, які захопіць пакет, удвая большы за беларускі – то «любові капец», як пеў калісьці беларускі гурт «Ляпіс-Трубяцкой» на расійскай эстрадзе.

У панядзелак зварот беларускіх дэпутатаў да расійскіх калегаў разгледзела Дума. Пасля не вельмі доўгіх слуханняў парламент вырашыў напісаць ліст прэм'ер-міністру Расіі Міхаілу Касьянаву. У лісце думцы просяць кіраўніка ўрада «разглядзець» пазіцыю саюзніцкага «парламента». І не больш за тое. Расійскія крыніцы адзначаюць, што спачатку ў праекце звароту да М.Касьянава стаяла больш важкае «ўлічыць», але яго потым перамянілі на ні да чаго не абавязваючае «разглядзець». Такім чынам, беларускім «уласнікам» пакалі на сваё месца, якое можна займаць з ліку 10,8%.

Дарэчы, у інтэрв'ю агенцтву «Финмаркет» віцэ-прэзідэнт «Слаўнафты» Андрэй Шторх заявіў, што «кампанія дзейнічае ў рэчышчы рашэнняў урада Расіі, які з'яўляецца асноўным акцыянерам кампаніі». Кратка і зразумела – хто плаціць грошы, той і музыку замаўляе.

Беларусы выказваюць спадзяванні, што ў выніку паспяховай дзейнасці «Слаўнафты» ў бліжэйшыя пяць гадоў яе акцыянеры някепска зарабяць на дывідэндах. Але што перашкодзіць кампаніі гэтаксама ўдала дзейнічаць на рынку, калі частка акцыянераў будзе мець прыватнае паходжанне? Магчыма, беларускія дэпутаты проста не ўяўляюць сябе, што прыватны капітал таксама ведае, як зарабляць грошы.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Пасляваенная партызанка

*Антыкамуністычнае супраціўленне ў Беларусі ў 1944-1953 гадах насіла масавы характар, лічыць вядомы беларускі гісторык, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта Ігар Кузняцоў.*

У складзе дэлегацыі беларускіх даследчыкаў ён браў удзел у міжнародным навуковым семінары «Крыніцы і стан даследавання дзейнасці апарату рэпрэсій па падаўленню незалежнага супраціўлення ў 1944-1956 гадах на польска-беларуска-літоўскім памежжы», які праходзіў 9-10 лістапада ў Беластоку (Польшча). Сустрэча праводзілася па ініцыятыве і на базе беластоцкага філіяла Інстытута памяці польскага народа. Створаны пяць гадоў таму, інстытут і дзесяць яго філіялаў займаюцца пошукам, абагульненнем і вывучэннем матэрыялаў, якія маюць дачыненне да рэпрэсій супраць палякаў у перыяд з 1939 года.

На семінары абмяркоўваліся гісторыя стварэння, формы і метады дзейнасці апарату рэпрэсій, а таксама арганізацыя антыкамуністычнага падполля на тэрыторыі Польшчы, Літвы і Беларусі.

Кузняцоў паведаміў, што ў Літве створаны Цэнтр вывучэння генацыду супраць літоўскага народа, дзе працуюць 140 даследчыкаў. У распараджэнне гэтай дзяржустановы перададзены матэрыялы былога КДБ, якія не былі вывезены ў Расію. Толькі за апошнія чатыры гады цэнтр выпусціў 22 кнігі ўспамінаў і 20 тамоў з імёнамі ахвяраў сталінскіх рэпрэсій, а таксама стварыў Музей генацыду ў Вільнюсе. «Апрача таго, цэнтр займаецца пытаннямі рэабілітацыі ахвяраў сталінскага тэрору і накіроўваннем у пракуратуру матэрыялаў для ўзбуджэння крымінальных спраў супраць арганізатараў генацыду і выканаўцаў іх загадаў», - сказаў Кузняцоў.

Ён са шкадаваннем зазначыў, што ў Беларусі, нават у штаце Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, няма ніводнага спецыяліста, які б займаўся падобнымі пытаннямі.

Паводле слоў Ігара Кузняцова, літоўскія вучоныя прадставілі на семінары абагульненыя вынікі даследванняў праблемы на падставе афіцыйных крыніц. Так, у Літве за перыяды 1939-1941 і 1944-1953 гадоў падчас карных акцый НКУС-МДБ былі знішчаны звыш 10 тысяч удзельнікаў супраціўлення, а таксама звыш 20 тысяч мірных жыхароў. Як паведаміў вучоны, згодна з афіцыйнай статыстыкай, у Беларусі ў 1944-1946 гады сілы антыкамуністычнага супраціўлення ажыццявілі 2 834 дыверсіі і тэрарыстычныя акты супраць прадстаўнікоў савецкай улады. За гэты ж перыяд рэпрэсіўныя органы правялі 4 596 баявых аперацый супраць атрадаў супраціўлення. Толькі ў 1946 годзе ў падчас гэтых аперацый былі забіты 3 766 актывістаў нацыяналістычнага падполля і арыштаваны больш за 19 тысяч чалавек. «Увогуле ў Беларусі за перыяд 1944-1951 гадоў падчас баявых аперацый было, як мяркуецца, знішчана звыш 10 тысяч удзельнікаў антысавецкага руху і арыштавана каля 50 тысяч чалавек», - зазначыў вучоны. Аднак устанавіць дакладную колькасць ахвяраў, паводле яго слоў, не ўяўляецца магчымым з-за вельмі абмежаванай базы крыніц інфармацыі. «Зыходзячы з гэтых лічбаў, можна зрабіць высноў аб тым, што з'яўляецца блефам прапагандыцкая версія савецкіх гісторыкаў аб адсутнасці антысавецкага супраціўлення на тэрыторыі краіны ў пасляваенныя гады», - падкрэсліў Ігар Кузняцоў. Паводле яго слоў, не ў адзінкавых актах бандытызму, а ў масавай палітычнай барацьбе з савецкай уладай брала ўдзел сяляне, нязгодныя з калектывізацыяй, а таксама тыя, хто ўцякаў з-пад варты ў фільтрацыйна-праверачных лагерах.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН**

# Шанц друкавацца ў Брэсце

47-ы нумар недзяржаўнай газеты «Брестский курьер» будзе адрукаваны ў Брэсцкай друкарні.

Нагадаем, што 46-ы нумар упершыню за 11 гадоў існавання былў аддрукаваны за мяжой, у прыватнай друкарні Смаленска (Расія). Прычынай гэтага стала адмова кіраўніцтва ААТ «Брэсцкая друкарня» друкаваць «Брестский курьер». Як зазначалася ў лісце дырэктара друкарні Васіля Каленікава, прыпыненне выдання газеты звязана з папярэджаннем, вынесеным «БК» Дзяржкамітэтам па друку ў верасні за публікацыю звароту ў падтрымку кандыдата ў прэзідэнты У.Ганчарыка. Для аднаўлення друкавання дырэктар друкарні запатрабаваў дазвол упраўлення па друку Брэсцкага аблвыканкама.

Як паведаміў БелаПАН галоўны рэдактар газеты Мікалай Аляксандраў, 12 лістапада «у тэлефоннай гутарцы Васіль Каленікаў пацвердзіў, што «Брестский курьер» будзе друкавацца ў Брэсце». Што тычыцца дазволу ад упраўлення па друку, то, паводле слоў Аляксандрава, «Каленікаў яго не патрабаваў».

«Мы гатовы да любога павароту падзей. Таму калі нам «нечакана» адмовяць зноў, надрукуем газету ў іншай друкарні», - сказаў Мікалай Аляксандраў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# Нефармальны беларус

*Першы альбом Сяржука Сокалава-Воюша «Нефармальны беларус», выдадзены пад ініцыятывай BMAgroup у серыі Беларускага Музычнага Архіва, усхвалявў прыхільнікаў бардаўскай песні. Што ж тычыцца Сокалава-Воюша, то на працягу дзесяці гадоў за мяжой не забываўся на Беларусь,часта наведваючыся ў Наваполацк, да сяброў, сына.*

Сокалаў працуе журналістам на «Радыё Свабода», але працягвае пісаць і вершы, і прозу. Яшчэ да ад'езду за мяжу здаў 4 зборнічкі вершаў у выдавецтва, яны так і ляжаць невыдадзеныя. Яшчэ накапілася на 5–6 зборнікаў. «Кроў на сумётах» першая і пакуль адзіная кніга — гэта нібыта выпадковасць. «95 адсоткаў таго, што я пішу, я не спяваю, — кажа Сяржук Сокалаў. — Я не спявак, не кампазітар. Я стараўся даць пачатак таму, чаго не было, што, дакладней, мы страцілі. Каб пісаць песні, патрэбна публіка, аддача. Песня патрабуе слухача».

Нібыта пацверджаннем гэтых словаў стала вялізная чарга моладзі да Сяржука, каб узяць аўтограф.

***— Вы доўга не выступалі перад нашай шырокай аўдыторыяй. Якое адчуванне пасля канцэрта?***

— Такое адчуванне, што як ёсць дома, як заўсёды было пасля канцэрта. У гэтым плане, дзякуй Богу, нічога не змянілася. Беларуская публіка яна заўсёды фантастычная. Гэта свая аўдыторыя. Галоўнае — атмасфера, якая нас яднае, праз якую мы гаворым.

***— Спадар Сяржук, пачыналася вашая творчасць па-руску. Як стаўся пераход у беларускую?***

— Так, я пачынаў пісаць вершы на рускай мове, яшчэ ў дзяцінстве. Гэта вельмі доўгі быў працэс. Пачатак гэтаму паклаў мой бацька, які быў ветэранам вайны і меў аднойчы неасцярожнасць сказаць пры мне, што вайну ***выйгралі рускія***. Мяне малога гэта вельмі абурыла, бо я не чуў нічога рускага, хаця ніхто і не казаў, што я беларус. Я нават добра не ведаў, хто я. Аднак цвёрда вырашыў: я беларус, заўсёды ім буду; так ціхенька ад бацькі, каб ён гэтага не ведаў. Да таго, як я пачаў пісаць па-беларуску, адбылося многа падзеяў. Ды працягваў пісаць і па-расійску адначасова. Быў такі часопіс «Кругозор», які выходзіў у Маскве з кружэлкамі, дзе была кружэлка і з маімі вершамі. Потым пачаў размаўляць па-беларуску, а пісаў па-руску, бо не быў гатовы цалкам перайсці на беларускамоўе. Паколькі сам я з вёскі, то вясковую мову я ведаў, ды дадалося тое, што маці была настаўніцай па беларускай мове. Нягледзячы на такія асновы, мову трэба было вучыць ад пачатку, наноў, бо яна больш чым проста пабытовая размова.

І аднойчы я падумаў: «Я размаўляю па-беларуску, я свядомы чалавек. Што я раблю? Сам сабе супярэчу». Вось тады і перастаў выкарыстоўваць рускую мову. І ніколі не перакладаў свае вершы з рускай на беларускую мову, як рабілі многія мае сябры. Тое, што па-руску, так і ляжыць — цэлы працэс для даследавання. Зразумеў усю несумленнасць перад сабой, сваімі сябрамі, — і кінуў. Трэба быць сумленным чалавекам. А калі ўлез у дугу — не кажы не магу.

***— Вы служылі ў савецкім войску. Якое было адчуванне там са сваёй беларускасцю. Як рэагавалі таварышы-салдаты?***

— Справа ў тым, што пісаць і размаўляць па-беларуску стала я пачаў ужо пасля войска. У войску — гэта яшчэ адзін такі цікавы этап — у мяне быў сябра з Палесся Уладзімір Панфіленка, і мы вырашылі з ім, гледзячы на ўсіх гэтых людзей іншых нацыяў, што будзем размаўляць па-беларуску паказальна, каб яны чулі, што мы гаворым на сваёй мове. Гэта быў не пратэст (чаго пратэставаць супраць азербайджанскай ці іншай якой мовы), хутчэй паказуха, што мы ёсць, вось, паслухайце, мы не такія, як вы, мы — іншыя.

Яшчэ і да войска здараліся такія гульні. Нас было трое сяброў. Мы бадзяліся па Наваполацку (не было чаго рабіць) і гучна размаўлялі па-беларуску. Нам тады казалі: «Не трэба выдзяляцца з натоўпу!» А мы вось — хадзілі і выдзяляліся.

Гэта сапраўды цэлы працэс. Усё тое і падрыхтавала мяне такім, якім я ёсць цяпер.

***— Якім усё ж павінен быць нефармальны беларус і проста шчыры беларус?***

— Беларус павінен быць чалавекам. Павінен умець даравець, як і нефармальны беларус. Наўрад ці тут можна аддзяліць, адмежаваць беларуса і нефармальнага беларуса. Любы беларус павінен стаяць на сваім, павінен умець не лезці ў непатрэбныя спрэчкі, калі яны не даюць плёну; ведаць, што ты сабой уяўляеш, паважаць і шанаваць самога сябе, як і іншых.

«Нефармальны беларус» (я назваў так альбом), бо ў той час, як пісалася гэтая песня, узнікалі розныя нефармальныя суполкі, незалежныя ад дзяржаўных структураў, аматары рок-музыкі і г.д. І я вырашыў, што тут месца і нефармальнаму беларусу. Плюс фармальны беларус — гэта беларус па пашпарце, які не гаворыць на беларускай мове.

***— Чаму вы абралі бардаўскі стыль?***



Сяржук Сокалаў-Воюш з моладдзю на Купальскае свята (фота з архіва)

— Не было бардаўскай песні. Трэба было штось каля вогнішча спяваць з сябрамі. Асабліва не разлічваў я, што з гэтага штось атрымаецца, хаця ведаў: нехта мусіць пачаць. Ну і пачаў. Стараўся быць паўсюль, дзе толькі можна.

***— У якой казцы вы хацелі б жыць?***

— Калі мой старэйшы сын, Стась, хадзіў у садок, яму задалі намаляваць персанажаў любімых казак. І ўсе намалявалі Чырвоную шапачку, шэрага воўка, а Стась — «З рога ўсяго многа». Я думаю, Беларусь павінна быць такая — «з рога ўсяго многа», а беларусы павінны ўвогуле быць багатым народам, гэта нацыя багатых людзей — што тычыцца маёй мары.

***— Шмат людзей адчувае патрэбу не толькі ў вашай творчасці, але і ў вас як асобе.***

— Калі я пачынаў пісаць песні, тады мала хто пісаў. Цяпер многа беларускамоўных бардаў. Я вызваліў яшчэ адну нішу. Няхай хтонебудзь стане на маё месца, а я стану побач.

У той сітуацыі, у якой я цяпер, я згодны сюды прыязджаць як мага часцей і рабіць выступленні, хаця трэба ўлічыць некаторыя нюансы.

З задавальненнем выступаў бы не толькі ў Мінску. У мінулым годзе выступаў на Браслаўшчыне. Калі ўязджаў, яшчэ нічога не было, з'язджаў — паўсюль сцяжкі бел-чырвона-белыя вісяць. Проста фантастычна.

***— Ці ёсць адчуванне ўдзячнасці, аддачы ад слухачоў цяпер?***

— Ёсць. У нейкім сэнсе праўда тое, што многіх слухачоў сваіх я пакінуў. Досыць сорамна за гэта. Але гэта жыццё, і тут яно для нас заўсёды свае карэктывы робіць. І часам немагчыма праз нешта пераступіць. Многія цяпер наракаюць, але, як я з'язджаў, усё было цудоўна...

***— Цяпер гэта ўспрымаецца як настальгія? Цесная зала, што зусім не ўпісваецца ў ваш фармат...***

— Так, хацелася б сустракацца інакш. У нас ёсць шмат святаў, напрыклад, Купалле. Можна выехаць з намётамі хоць на тыдзень. І кожны будзе спяваць. У пачатку 80-х мы так і рабілі. З другога боку, трэба, каб барды самі крыху варушыліся, наладжвалі нейкія фестывалі. Вось як у Беластоку «Бардаўская восень».

***— Вы добра сочыце за падзеямі ў Беларусі. Што выратавальніцкага засталося? Як новая «зубрыная» хваля?***

— Моладзь, я думаю, нацыянальна-свядомая. Іх мала, але ў 82-ім годзе на філфаку БДУ нас было ўсяго можа з 15 чалавек. Усе ведалі адзін другога, хто гаварыў па-беларуску. Можна было тэарэтычна вылічыць, хто гэта. Цяпер немагчыма. Сёння прыйшлі людзі на канцэрт, я палову з іх не ведаю. Што да зубраўцаў, то гэтай моладзі не хапае якраз стаць нефармальнымі беларусамі. У іх ёсць і жаданне, і сіла, і імпэт, і цвёрдасць характару — усё! «Зубр» мае добры патэнцыял, калі ён стане цвёрда на нацыянальную глебу. Ім будзе дзякуй вялікі і ад старэйшага пакалення і ад «бацькавых касцей».

***— Адкуль, спадар Сяржук, у вас дадатковае прозвішча Воюш?***

— Прозвішча мамы. Тата быў Сокалаў. Усе лічаць, што ад «ваяваць». Так, пэўна, і ёсць. Але гэта і маміна прозвішча. Пашанцавала.

***— Што такое свабода ў вашым разуменні?***

— Свабода — гэта, калі ты можаш быць тым, кім ты хочаш. Не можна знішчаць чалавека за сказанае і напісанае. Свабода слова і мае якраз на ўвазе гэта: чалавек можа напісаць усё, што хоча, як хоча, дзе ён хоча, а ўжо чытаць — справа чытача. У нас ва універсітэце цэлая група была. С.Дубавец, В.Вячорка, В.Івашкевіч, А.Суша, А.Бяляцкі. Усе мы былі адна кампанія. Мы падтрымлівалі адзін другога, было ўсё па-сяброўску, адзін другога падганялі, не давалі цягнуцца ззаду. Беларус не можа быць як свіння. Беларус — гэта прыстойнасць, гэта культура. Беларус не можа паперціся на чырвонае святло. І калі хто рабіў што не так, мы казалі: гэта не па-беларуску.

***— Што для вас гэты першы кампакт-дыск сярод бардаў.***

— Мне проста прыемна. Я ніколі не марыў пра кружэлкі, нейкія запісы. Тое самае і з кніжкамі. Ніколі не марыў пра выданне чагосьці матэрыяльнага, таму не крыўдую.

***— Адзін пісьменнік напісаў пра Беларусь: «Гэтае месца пацалаваў Бог». Просіцца дадатак. І патаптаў д'ябал.***

– А другі пісьменнік напісаў: «На Беларусі Бог жыве».

**Гутарыла Ірына ТОЎСЦІК**

СМІ

## Плануецца аднаўленне цэнзуры

Праект закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», прадстаўлены для абмеркавання ў дзяржаўныя органы, істотна адрозніваецца ад дзеючага цяпер закона.

Юрысты Цэнтра прававой абароны СМІ пры грамадскім аб'яднанні «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Міхаіл Пастухоў і Юрый Тапарашаў заявілі, што фактычна пад выглядам «змяненняў і дапаўненняў» прапаноўваецца рэдакцыя новага закона, які можа істотна змяніць становішча СМІ і значна пашырыць паўнамоцтвы органаў дзяржаўнага кіравання па ўзмацненню жорсткасці кантролю за інфармацыйнай дзейнасцю. Напрыклад, артыкул 6 праекта, закліканы замяніць злашчасны артыкул 5 дзеючага закона («Злоўжыванне свабодай масавай інфармацыі»), прадугледжвае скарачэнне выпадкаў, якія прызнаюцца злоўжываннем свабодай інфармацыі і за якія СМІ могуць падвяргацца афіцыйным спагнанням. Аднак пры больш паглыбленым вывучэнні гэтага артыкула можна прыйсці да высновы, што насамрэч кола абмежаванняў свабоды слова не паменшылася, а значна пашырылася. Гэта, у прыватнасці, праяўляецца ў фармулёўцы пунктаў 2 і 3. У пункце 2 робіцца адсылка на ўсё без выключэння заканадаўства Рэспублікі Беларусь, у якім могуць быць прадугледжаны тыя ці іншыя забароны і абмежаванні, што накладаюцца на распаўсюджванне інфармацыі. Само сабой зразумела, адзначаюць юрысты БАЖ, адкрываецца шырокая магчымасць для «апаратыўнага» заканадаўства (дэкрэтаў і ўказаў кіраўніка дзяржавы, пастаноў урада, ведамасных прававых актаў). Да таго ж журналістам і рэдактарам газет будзе складана арыентавацца ў патоку заканадаўства, што хутка мяняецца, у адпаведнасці з якім яны могуць быць прыцягнуты да адказнасці. Пункт 3 сваёй пашыральнай фармулёўкай практычна забараняе любое ўзгадванне аб дзейнасці партый і грамадскіх аб'яднанняў, якія па тых ці іншых прычынах не прайшлі перарэгістрацыю або былі ліквідаваны. Цяпер дзеючы закон накладае забарону толькі на выступленні ад імя такіх партый і арганізацый.

І такіх прыкладаў юрысты прыводзяць шмат. Яны прапаноўваюць арганізаваць шырокае грамадскае абмеркаванне праекта закона; накіраваць праект для правядзення экспертызы ў міжнародныя арганізацыі (Міжнародную федэрацыю журналістаў, Сусветную кампанію за свабоду слова «*Article XIX*»).

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН**

## Пост для нападу

За радкамі кароткай інфармацыі з Брэста аб скандале 7 лістапада ў Брэсцкай крэпасці, які ўчынілі юнакі з Мінска, засталіся іншыя немалаважныя падрабязнасці.

У крэпасць накіравалася група маладых людзей з ліку так званых футбольных фанаў, якія прыехалі са сталіцы падтрымаць каманду «Тарпеда-МАЗ» на матчы з брэсцкім «Дынама». Госці яшчэ ў дарозе былі «падагрэтыя» не адным півам, а таму паводзілі сябе задзірыста. Ну а паколькі ў той «чырвоны дзень» пры імжы з неба ў мемарыяле было бязлюдна і толькі на пасту ля Вечнага агню мерзла варта з чатырох юнакоў і дзяўчатаў, то іхнія аднагодкі пачалі «чапляцца»: спіхваць з плітаў, адбіраць муляж аўтамата і нават крычалі «Хайль Гітлер!»... 9 крыўдзіцеляў варты былі неўзабаве затрыманыя міліцыяй, двое з іх на наступны дзень паўсталі перад суддзёй па адміністрацыйных справах Ленінскага РАУС Брэста. І хаця дэбош такім чынам пакараны, але праблема наўрад ці знікла.

У сваім шчырым прызнанні для журналістаў кіраўнік падрыхтоўкі мемарыяльных атрадаў палкоўнік запасу Міхаіл Чыкалаў вымушаны быў паскардзіцца і на іншыя факты прадузятых адносінаў экскурсантаў да дзіцячай вартавой службы ў крэпасці. Мінуў той час, калі юнармейцы пры пагонах і з аўтаматам выклікалі захапленне. Ад людзей цяжка утойваць, што на пасту №1 здараюцца выпадкі непрытомнасці ў школьнікаў, асабліва ў спёку. Зімой дзяўчынкі вартуюць у бушлатах не па іх плячы. Іранічны скептыцызм выклікае і шыхт дзяцей, калі яны імкнуцца дэманстраваць вайсковую вывучку. Нарэшце, ёсць у Брэсце шматтысячны гарнізон, і салдаты маглі б годна адстаяць сімвалічную вахту на некропалі ў старой крэпасці над Бугам.

Дарэчы, 9 траўня 2002 года споўніцца 30-годдзе заснавання ганаровай варты ў Брэсцкай крэпасці. Тады гэта адбылося ў традыцыях распаўсюджанага ў СССР піянерскага закліку. Аднак зараз паўсюдна, і нават на Мамаевым кургане, дзе зроблены быў пачын, знятыя дзіцячыя варты памяці. Выпадак фізічнай сутычкі равеснікаў у Брэсцкай крэпасці павінен насцярожыць. Інакш трэба трымаць побач міліцыю для абароны дзіцячага паста ад нападу.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Свята габрэйскай культуры

У Цэнтры культуры і спорту Беларускай чыгункі праходзіць V абшчынны фестываль габрэйскай кнігі.

На выставе былі прадстаўленыя творы на розных мовах, прысвечаныя гісторыі і культуры габрэяў. У экспазіцыі – кніжныя стэнды з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа, Іудзейскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь і Мінскай іудзейскай рэлігійнай абшчыны «Сімха», Ізраільскага культурна-інфармацыйнага цэнтра і дабрачыннага фонду «Хэсэд-Рахамім».

Некамерцыйная аўтарская канцэптуальная галерэя «Брама» прадставіла выставу экслібрысаў беларускага мастака Яўгена Ціхановіча. Сярод іх – кніжныя знакі Аркадзя Райкіна, Заіра Азгура, Юрыя Нікуліна, Оскара Марыкса.

Часовы паверапы ў справах Ізраіля ў Беларусі Эці Кацын адзначыла, што значная цікавасць да габрэйскай кнігі ў Беларусі ўяўляе сабой вельмі важны гістарычны феномен.

Як заўважыў народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, «асабіста для мяне ніколі не было шмат габрэяў – нацыі праведнікаў, якія перанеслі так шмат пакут з-за блізкасці да Бога». «Я памятаю, як перад вайной у мэтах інтэрнацыяналізацыі бальшавікі выкідвалі са школ і бібліятэк габрэйскія кнігі. Іх адкрытыя старонкі назаўсёды засталіся для мяне птушкамі смутку. Я ўсё жыццё пражыў з габрэямі. Сярод маіх бліжэйшых сяброў – Навум Кіслік, Рыгор Бярозкін і Барыс Забораў», – адзначыў паэт. Ён прачытаў біблейскі тэкст «Песнь песней» у сваім перакладзе на беларускую мову – «Песні над песнямі Саламонавымі».

У праграме тыднёвай акцыі – прэзентацыя новых кніг, сустрэча з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі, вечарыны, прысвечаныя 80-годдзю паэта Веніяміна Блажэннага (Айзенштадта) і Танаху (Старому запавету Бібліі), а таксама маладзёжнае свята.

Завершыцца фестываль прэм'ерай спектакля паводле п'есы ізраільскага драматурга Дана Альмагора «Толькі дурні сумуюць» у пастаноўцы Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Спектакль адбудзецца вечарам 18 лістапада ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

**Марат ГАРАВЫ**

## Сціплыя ўшанаванні вялікага паэта

Сёлета ў снежні спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння аднаго з самых вядомых і любімых у Беларусі паэтаў – Максіма Багдановіча. Праўда, святкавацца гэтая юбілейная дата ў нашай краіне будзе досыць сціпла. З-за гэтага і блытаюць менчукі сталічныя помнікі Багдановічу і Горкаму. А вось вуліцу Багдановіча, колішнюю Горкага, па-старому называюць у Мінску надзвычай рэдка. Дарэчы, па Багдановіча можна прайсці яшчэ ў Гродне.

Міністэрства культуры, як распавялі ў Літаратурным музеі імя Максіма Багдановіча, што месціцца ў Мінску ў Траецкім прадмесці, возьме ў гэтым малы ўдзел. Асноўныя мерапрыемствы з нагоды 110-годдзя з дня нараджэння паэта будуць арганізаваныя высілкамі якраз музея. Тут 27 лістапада, у дзень народзінаў Максіма Багдановіча па старым стылі (па новым – 9 снежня), пройдуць Міжнародная навуковая канферэнцыя і ўрачыстая вечарына, куды прыедуць і асобы, так ці інакш крэўна звязаныя з паэтам. Апрача таго, у Літаратурным музеі Багдановіча рыхтуюцца некалькі выставаў. Адна з іх прадставіць Багдановіча ў ілюстрацыях (на ёй будуць экспанавацца творы графікі). Нейкая вечарына, прымеркаваная да багдановічавага юбілея, пройдзе па традыцыі ў Доме літаратара. І натуральна, дзесяткі людзей прыйдуць і 27 лістапада, і 9 снежня з кветкамі да помніка паэту ў скверы каля Опернага тэатра. На пытанне, ці атрымаў Літаратурны музей імя Багдановіча і ягоныя філіялы напярэдадні паэтавага 110-годдзя якія-небудзь дадатковыя сродкі ад дзяржавы, тут адказваюць, што і ў асноўным абмежаваныя. Праўда, да юбілею Багдановіча аднавіў сваю працу пасля проста вельмі востра наспеўшага рамонту філіял Літмузея «Беларуская хатка», якая на некалькі месяцаў зачынялася з-за аварыйнага стану вода- і цепласетак. У гэтым дамку на Рабкораўскім завулку, 9 Максім Багдановіч пражыў свае апошнія паўгода жыцця ў Беларусі.

Пры такім жменькавым фінансаванні дзеючых установаў у гонар Максіма Багдановіча, натуральна, будзе выглядаць пераліваннем з пустога ў парожняе абмеркаванне і без таго спрэчнай і дарагой ідэі аб пераносе на радзіму з Ялты, дзе пахаваны паэт, ягонага праху і перапахавання на Вайсковых могілках побач з Янкам Купалам і Якубам Коласам.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

## Урад і здароўе нацыі

У сваёй барацьбе з тытунёвымі кампаніямі міністэрства аховы здароўя засталося ў адзіноце. Як распавёў намеснік галоўнага санітарнага ўрача Беларусі Андрэй Секач, бліжэйшым часам мусіць быць прыняты дэкрэт «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці, абарачэння, рэкламы і спажывання алкагольнай, нехарчовай спіртаўтрымліваючай прадукцыі, спірту этылавага, тытунёвай сыравіны і тытунёвых вырабаў», але які ў цяперашнім выглядзе не ўтрымлівае ніякіх істотных абмежаванняў для рэкламы тытунёвых вырабаў.

Міністэрства аховы здароўя з свайго боку прапанавала замацаваць гэтым дакументам забарону на ўсе віды рэкламы тытунёвых вырабаў, на іх дармавое распаўсюджванне, на спонсарскую падтрымку тытунёвымі кампаніямі розных мерапрыемстваў, а таксама забараніць паленне на працоўных месцах, на прыпынках транспарту, вакзалах, аэрапортах і ў іншых грамадскіх месцах. Ніводная з гэтых прапановаў у тэкст дакумента не патрапіла, і ўрад задаволіўся больш лагоднымі абмежавальнымі захадамі, прапанаванымі самімі тытунёўцамі: напрыклад, размяшчэнне вонкавай рэкламы не бліжэй за 100 метраў ад лячэбных і адукацыйных установаў і забарона на ўдзел у рэкламных акцыях асобаў да 18-гадовага ўзросту. Прыняцце дэкрэта ў такім выглядзе, на думку медыкаў, не толькі не дапаможа пераламаць сітуацыю з паленнем у краіне, але нават адкіне Беларусь у барацьбе з гэтым далёка назад.

Між тым, вопыт Фінляндыі, Нарвегіі альбо Польшчы сведчыць аб тым, што ліквідаванне паўсюднай рэкламы цыгарэтаў скарачае колькасць палільшчыкаў на 25-32%.

Адна выпаленая цыгарэта павялічвае работу сэрца на 10-15 удараў у хвіліну, а паколькі працягласць жыцця вымяраецца менавіта ўдарамі сэрца, то ў палільшчыка са стажам жыццё такім чынам скарачаецца на 5 гадоў.

Афіцыйна палельнікамі прынята лічыць толькі тых, хто выпальвае за дзень па 10 цыгарэтаў і больш. Толькі такіх на Беларусі больш за палову насельніцтва. Пастуова расце і колькасць хворых на анкалагічныя захворванні. Канцэрагены і радыеактыўныя ізатопы, утрымліваемыя ў цыгарэтах, могуць выклікаць у аматараў папаліць рак усіх слізістых абалонак – поласці рота, гартані, лёгкіх. Згодна з медычнымі звесткамі, рызыка прыдбаць сабе анкалагічныя хваробы скарачаецца пасля 5-15 гадоў пасля кідання палення, а рызыка развіцця сардэчна-сасудзістых захворванняў – ужо праз 1-2 гады.

**Алена ЛАБАНАВА**

**ПОШТА**

## Чытаючы «Известия»...

Нашы беларускія служыцелі мас-медыя падчас або не могуць на высокай ступені прафесійнасці выканаць сваю працу — дае аб сабе знаць, хай выбачаюць іншыя журналісты і карэспандэнты, мястэчковасць, або ім сёе-тое недаступна ці нават зусім забаронена.

Канешне ж, у маскоўскіх электронных і папяровых сродках падрыхтоўкі і перадачы інфармацыі свае мэты (у тым ліку і прамыванне мазгоў у патрэбным кірунку), свае накатаныя шаблоны; не-не а і яны даносяць да нашай свядомасці і падсвядомасці адфільтраваную жвачку. Тут прыёмнікам — гэта значыць нам з вамі – трэба мець сваю галаву, а не толькі вочы і вушы. Затое ў расійцаў ёсць тое, што называецца ўзроўнем. Таму слухаем «галасы» і глядзім «карцінку» з-за ўсходняга бугра, чытаем «Известия», «Комсомольскую правду» і г.д.

Дык вось у адным з нумароў «Известий» прачытаў інтэрв'ю з паслом Пакістана ў Расіі. Размова, зразумела, ішла па актуальнай зараз схеме Пакістан—Афганістан—тэрарызм. Акрамя гэтага, спадар пасол распавёў пра прывабнасць яго радзімы для эканамічных стасункаў, пра моцны сярэдні клас, які ў гэтай краіне пачынае адлік з даходу ў месяц не менш чым 1.000 долараў. Уражвае! Хто ў нашай прамыслова развітай краіне можа пахваліцца такім паказчыкам. У Пакістане (дарэчы, «краіне трэцяга свету», пра якую многія беларусы нават мала што ведаюць) такіх «каралёў жыцця» каля 30% агульнага складу насельніцтва (!). У Беларусі няма і 1% гэткага класа! Класа, які лічыцца рухавіком эканомікі. Вось табе і цэнтр Еўропы...

Перад вачыма, як кантраст, карцінка-сімвал з мясцовага жыцця. Для гарадоў калібра Маладзечна стадыён – адно з ключавых месцаў правядзення вольнага часу. Білет на футбольны матч цягне на тую ж 1.000, толькі беларускіх рублёў. А вось частка гледачоў не можа дазволіць сабе патраціць гэтыя 2/3 долара на хоць збольшага годную пазіцыю гледача і пазірае на падзеі на полі праз рамку ўваходных варот. І нейкі насмешліва-сумны адбітак убогасці і зняважанасці на тварах гэтых людзей, што жывуць у XXI стагоддзі. Нашых людзей...

Як важкую манну нябесную нам абяцаюць даход у 100 долараў. Зразумела, што моладзь бярэ вышэй і лічыць прыемлівым мець заробак у 150—200 долараў. Некаторыя гэтага дасягнуць. Можа быць. Але суровая праўда дня сённяшняга, што ў нашай дужа моцна сацыяльна-скіраванай краіне, да прыкладу, стаўка лабаранта хоць і з тэхнікумаўскай адукацыяй складае 30.000 рублёў — 20 долараў(!). Ды яшчэ і конкурс на месца...

**С. ЦІМОШКА, Маладзечна**

**НАВУКА**

## Человека скрестили с мухой



Индийским ученым удалось вывести плодовую мушку с человеческим геном. Теперь они собираются испытывать на ней потенциальные лекарства от рака. Ученые надеются, что «очеловеченная» муха поможет создавать препараты гораздо быстрее. Об этом рассказало агентство *Ananova* со ссылкой на *The Indian Express*.

Работу по внедрению человеческого гена выполнили Пунам Бхандари и Шашидхар, генетики из Центра клеточной и молекулярной биологии Хайдарабада. Выведенная ими трансгенная муха избавит ученых от длительных и дорогих тестов для отсеивания потенциальных лекарств.

Эти мушки размножаются настолько быстро, что за четыре недели от них можно получить до трех поколений, что делает их чрезвычайно удобными для экспериментов и экономит деньги и время.

# Кто получит замок Радзивиллов?

*В 1523 г. в наследство от отца, Станислава Кишки, его дочери Анне, которая была женой Яна Миколая Радзивилла Бородатого, достались Несвиж и многие другие имения. У Анны и Яна было двое сыновей: Миколай и Ян, которые росли уже в Несвижском замке. Вот так появилась несвижская линия Радзивиллов.*

**Вчера проходило выездное заседание депутатов Палаты представителей Национального собрания Беларуси, посвященное вопросам состояния, охраны и функционирования национальных историко-культурных памятников. Совместно со специалистами министерств культуры, финансов и экономики депутаты побывали в Мирском замке и в Несвижском историко-культурном заповеднике. Последнее представляет интерес, поскольку несвижский дворец становится под реставрацию, и что в нем будет после нее – пока представляет из себя загадку. Вполне возможно, что дворцово-парковый комплекс станет президентской резиденцией. Для размышлений читателя на данную тему предлагаем короткую историческую справку, составленную по литературным источникам.**

Первым владельцем Несвижа из Радзивиллов был Миколай по прозвищу Черный, канцлер великий литовский. Он находился в родстве с королем Жигимонтом Августом, который был женат на двоюродной сестре князя — Барбаре Радзивилл. Согласно королевскому привилею 1551 г., Миколай получил право на хранение государственных актов (государственного архива ВКЛ). Архив размещался в нескольких залах над брамой Несвижского замка и включал наиболее древние акты, привилеи, частные корреспонденции, публичные дела, брачные контракты, дипломатическую и личную переписку, акты уний и пр.

Новый владелец Миколай Криштоф Сиротка в 19 лет получил должность маршалка литовского. После смерти Юрия Ильинича, опекуном которого был Радзивилл Черный, молодому князю отошел Мир и Белая. Он построил в Несвиже новый каменный замок в стиле Ренессанса, престижный фарный костел, коллегиум, монастыри бернардинцев и бернардинок.

В 1586 г. Несвиж становится центром Несвижской ординации, неделимой и неотчуждаемой собственностью рода, образованной семейным соглашением.

В 1720 г. ординация перешла Михалу Казимиру Радзивиллу, виленскому воеводе, гетману ВКЛ, известному в связи с его любимой приговоркой как князь Рыбонька.

Он поднял из руин Несвиж и разоренные шведами владения. Особенно велик вклад князя и его жены Франтишки Уршули в развитие культурной жизни города. В 1762 г. владения переходят Каролю Станиславу (Пане Коханку), третьему сыну князя. Восьми лет Кароль мог писать на нескольких языках. В пятилетнем возрасте князь — кавалер ордена св. Губерта, в тринадцать — маршалок на вилейском сеймике, в шестнадцать — депутат Литовского Трибунала, через год — полковник, а в восемнадцать лет — подчаший ВКЛ. Годовой доход князя составлял 1 миллион 300 тысяч талеров. Он был самым богатым человеком в стране. В 1764 г. князь лишился титула воеводы и оказался в изгнании за политические убеждения и участие в Барской конфедерации. Радзивилловские владения несколько раз секвестрировались, накопленные веками богатства рода растаскивались. Он вернулся в Несвиж в 1778 г. после первого раздела Речи Посполитой и объявления амнистии барским конфедератам. По возвращении князь развернул энергичную деятельность по возрождению Несвижа. Князь основал кадетскую школу (корпус артиллерии и инженерии). В память о матери, княгине Уршуле, возродил театр, создал балетную труппу. Наладил работу двух персиярней (в Слуцке и Несвиже), основал в Налибоках и Уречье стекольные гуты.

С 1780 по 1800 г. по приглашению Кароля Радзивилла в Несвиже работал Ян Давид Голанд, известный композитор и дирижер, друг Филиппа Эммануила Баха (сына Иоганна Себастьяна Баха), создавший балет «Орфей и Эвридика», оперы «Войт поселения Альба» (совместно с Матеем Радзивиллом), «Агатка, или приезд пана» и др.

В 1790 г. Кароль Радзивилл умер в Белой. Тело его перевезли в Несвиж, в каплицу, в предместье Новый город. Перезахоронение в родовую крипту состоялось только через несколько десятилетий.

Наследником стал малолетний племянник Доминик, воспитывавшийся за рубежом. В 1812 г. князь Доминик, сформировав свой кавалерийский полк, вошел в состав наполеоновской армии и двинулся на Москву. 11 ноября 1813 г. он умер от ран во Франции.

На Доминике прервалась линия несвижских ординатов. Внебрачный сын Александр (род. в 1808 г.) не был признан наследником. Несвиж перестал быть местом жительства его владельцев.

Малолетняя дочь Доминика княжна Стефания по желанию императора Александра была отдана замуж за русского генерала князя Людвига Витгенштейна, а в 1814 г. ординация перешла к Антонию Генриху Радзивиллу, основателю «берлинской» линии Радзивиллов. Его жена Луиза из Гогенцоллернов была племянницей Фридриха Вильгельма II, поэтому Антоний служил при королевском дворе и жил в Берлине.

Тринадцатым ординатором несвижским был сын князя Антония — Фредерик Вильгельм Павел, прусский генерал. От него ординация перешла к его сыну князю Антонию Фредерику, женатому на Марии Дороте де Кастеллян.

В 1904 г. пятнадцатым ординатором стал старший сын Антония и Марии Юрий, который находился на прусской службе, а после его смерти Юрия в Вене владения перешли его сыну Антонию Альбрехту (1885-1935), женатому на англичанке Дороте Паркер-Деакон. В 1939 г. Несвижский замок стал народным достоянием. Вначале в нем собирались устроить санаторий для сотрудников НКВД, а после войны тут был санаторий для номенклатурных работников.

Строительство Несвижского дворцово-замкового ансамбля велось с XVI по XVIII в. Трехэтажный центральный корпус дворца с большими восьмигранными башнями по углам и боковые корпуса (левый — для администрации и хозяйственных служб, правый с дозорной башней служил казармой), позднее соединенные с главным корпусом и галереями с въездной брамой, образовали замкнутый парадный двор (45х83 м).

После шведских разрушений работы по восстановлению велись под руководством архитектора Казимира Здановича (Ждановича). В XVIII в. над его расширением и обновлением работали видные европейские архитекторы — М.Педетти, М.Флорианович, К.Спампани, А.Лоцци, Л.Лутницкий. Дворец восстанавливается и перестраивается в формах барокко. Со стороны паркового фасада строится двухэтажная пристройка с большой террасой и угловыми башенками. Перестроенные боковые корпуса соединяются с главным корпусом дворца трехэтажными жилыми объемами, а с въездной брамой — галереями. Брама завершается сравнительно башней с часами. Вторая высокая дозорная башня правого трехэтажного корпуса была увенчана изображением гербового орла Радзивиллов с распростертыми крыльями. Орлы, а также часы были сняты после Второй мировой войны, когда старое покрытие зданий заменяли новой железной кровлей.

В 1747-1748 гг. спроектированный К.Здановичем зал был расписан Ксаверием Гесским с помощью Михала Скжицкого и Миколаевского. Гесский с Л.Лутницким декорировали портретный зал. По проекту Лутницкого был создан Королевский зал. Замковую галерею в 1768 г. спроектировал Август Лоцци.



Фота IREX/ProMedia

Нижний этаж дворца занимали в основном служебные помещения, верхние были княжескими апартаментами, парадными залами, салонами, кабинетами, жилыми комнатами. Стены помещений были отделаны дубовыми резными панелями, полотняными и кожаными шпалерами, потолки расписаны и покрыты позолотой. Пол сделан из дубового наборного паркета.

Княгиня Мария Дорота Радзивилл начала формирование несвижских парков — Старого, или Озерины, Марысиного, Английского и Японского.

Парк Озерина был разбит в 1878 г. на правом берегу пруда за северным валом замка на площади 16 га под влиянием романтических идей. Парк назывался также Старым парком, так как несколькими годами позже был заложен парк с противоположной стороны пруда. Пойма Уши после строительства дамб превратилась в два крупных водоема, получивших названия Дикий и Замковый и занявших примерно треть парковой территории.

Замковый парк (парк Антония) объединяет изолированные участки в виде парадного двора, небольших замковых двориков, валов с бывшими бастионами. Парадный двор, вымощенный в прошлом бутовым камнем. В 30-е годы XIX в. в центре его росла группа березы и осины. Позже, судя по гравюре Г.Гуминского, на ее месте была разбита цветочная клумба (диаметр 15-16 м). В 60-е годы мощение было снято, а центральная часть двора украшена экзотическими растениями.

В XIX в. в замке было 12 залов, за которыми сохранились старинные названия. Золотой и Королевский залы занимали четвертый этаж дворца. Первый отличался утонченным и богатым убранством; во втором, служившим местом пышных приемов и банкетов, размещались портреты королей Речи Посполитой. В Гетманском зале висели портреты гетманов из Радзивиллов. Белый был бальным залом.

В замке имелась богатая галерея портретов, основанная Радзивиллом Сироткой как собрание портретов династии Радзивиллов и породнившихся с ними родов. Согласно архивному списку 1779 г., в галерее насчитывалось 984 портрета — замечательных художественных полотен (Тициан, Лукас, Кранах Старший, Витановский, Гесский, Дамель, Пешка и др.).

В галерее имелся портрет королевы Барбары, портреты первых владельцев Несвижа, Радзивилла Черного (портрет работы Тициана, отразившего церемонию присвоения Радзивиллу княжеского титула), Радзивилла Сиротки, портреты Витовта, Ягайлы, Льва Сапеги, Казимира Сапеги, Станислава Кишки, Станислава Августа, Ивана Грозного и др. Видимо, более половины коллекции портретов утеряна, шестьдесят три хранятся в Национальном музее в Варшаве, небольшое количество находится в Государственном художественном музее Беларуси.

Судьба библиотеки оказалась не менее трагичной, чем всех остальных собраний радзивилловского замка. В 1772 г. она была конфискована, вывезена А.Бибиковым и передана по распоряжению Екатерины II Императорской Академии наук. В XIX в. Радзивиллы собрали новую библиотеку. В ее состав вошли книги из закрытых в Несвиже монастырей бернардинцев и бернардинок. В 1880 г. Антонием и Марией Радзивилл была перевезена в Несвиж библиотека из Берлина, которая стала главной частью нового собрания и имела особый экслибрис. В 1914 г. библиотека была вновь разграблена.

Исключительное место в резиденции Радзивиллов занимал костел Божьего тела, расположенный перед водоемами справа от въездной аллеи в замок, который был родовой усыпальницей Радзивиллов. Первым в крипте был похоронен Миколай Криштоф Сиротка (1616), последним — Альбрехт Радзивилл (1935).

*По литературным источникам*

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1783 Нумар падпісаны ў друк 13/11/2001 (15:00) Наклад – 9.490